Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета ДЛЯ ВАС

3 верасня 1997 года
СЕРАДА
№ 46
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

## СТАРШЫНЯ РАЙСАВЕТА-МІЛЬЯНЕР

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Напэўна, застанецца тайнай, чаму газета „Брестский курьер" аказвае на працягу некалькіх гадоў пільную ўвагу старшыні Івацэвіцкага райсавета М. М. Валковічу. Вядома толькі, што яму яна неаднаразова прысвячала свае матэрыялы, у якіх з сваіх пазіцый асвятляла працоўную, грамадскую і бытавую дзейнасць былога начальніка калоніі строгага рэжыму, а цяпер старшыні райсавета. У публікацыях „Эхо компании по выдвижению кандидатов в президенты", „Колониальный порядок", „На даче лучше, чем в зоне", „Явление истины нежелательно" газета „Брестский курьер" сцвярджала, што гэтая дзейнасць у многім мела несумленны характар.

З такой ацэнкай сваёй дзейнасці М. М. Валковіч не пагадзіўся і падаў іск аб абароне гонару і годнасці ў суд і ў маі гэтага года працэс выйграў. Суд Ленінскага раёна г. Брэста абавязаў рэдакцыю „Брестского курьера" апублікаваць на старонках газеты абвяржэнне.

М. М. Валковіч прад'явіў „Брестскому курьеру" і патрабаванне аб матэрыяльнай кампенсацыі маральнага ўрону, нанесенага яго гонару і годнасці. Свой гонар і годнасць М. М. Валковіч ацаніў у 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў. Суд задаволіў і гэта патрабаванне, толькі не на названую лічбу, а ўсяго на 8 мільёнаў рублёў. Рэдакцыя „Брестского курьера" разлічылася з М. М. Валковічам.

Такім чынам, старшыня Івацэвіцкага райсавета дэпутатаў стаў мільянерам. У яго, дарэчы, ёсць яшчэ магчымасць дадаць да атрыманых мільёнаў яшчэ колькі соцен тысяч ці мільёнаў рублёў, бо артыкул „Особенности национальной езды в Ивацевичах" („Брестский курьер", № 10 за 6–12 марта с. г.), у якім газета паведамляла сваім чытачам нібыта аб затрыманні М. М. Валковіча ў нецвярозым стане за рулём, а пасля супраціўленні работнікам міліцыі, застаўся яшчэ не абвергнутым.

*Армия, помогающая гражданским лицам решать проблемы, навязанные стихийными бедствиями, оказалась верной себе и сейчас. Во всех областях республики, пострадавших от урагана, солдаты разбирают лесные буреломы. С топорами и пилами наперевес они штурмуют бастионы, в мгновение ока созданные природой, и в окрестностях Телехан.*



## СОЛДАТ ВАЛИТ ДЕРЕВЬЯ, А СЛУЖБА ИДЁТ

● *НАПЕРЕКОР СТИХИИ*

Сводный инженерно-саперный батальон вобрал в себя представителей армейских частей Гродненской и Брестской областей.

Триста пятьдесят солдат срочной службы и их командиры стали лагерем среди лесов в самом центре Полесья. Живут они в палатках, выстроенных прямыми рядами. Дорожки между ними тщательно посыпаны гравием, каждое временное сооружение снабжено указателем, по которому можно определить его принадлежность. Помимо жилых помещений для солдат и офицеров, там много укрытий общего назначения. Больничный стационар на четыре койки, медпункт, „ленинская" комната (это название перекочевало в армейский лексикон из времен десятилетней давности и не подверглось ревизии), столовая, полевая кухня, командирский пункт – всего и не упомянуть человеку, далекому от солдатской жизни. На территории лагеря находится спортивный городок, брусья и турники которого сделаны исключительно из дерева, зрительный зал под открытым небом со скамейками из того же материала. Вдоль желтоватого от песка плаца в ряд выстроились врытые в землю транспоранты с патриотическими призывами.

Палаточный армейский городок оживает в шесть часов утра. В течение часа там слышится дребезжание котелков, бодрая музыка и ленивые шутки еще окончательно не пришедших в себя после сна солдат. Вечером после семи все повторяется, только с той разницей, что бурно проявлять свой молодой темперамент им мешает усталость после тяжелой мужской работы. Обед солдатам привозят прямо на делянки, к месту их сражения с лесным хаосом.

Из экипировки к обычной солдатской форме с обязательными кирзовыми сапогами добавлены яркие каски, чтобы защитить некоторые буйные головы от падения на них неуставных предметов. С бензопилами имеют дело только специально обученные люди и восемь вальщиков из Белорусской базы авиационной охраны лесов, приставленных к солдатам в качестве инструкторов лесоповального дела. Несколько дней перед началом сражения с последствиями стихии их обучал этому и главный лесничий Телеханского лесхоза.

Это хозяйство и сейчас не забывает своих молодых помощников. Лесники снабдили армейцев касками, а недавно выделили 20 миллионов рублей из своей прибыли на дополнительное питание. Добротная и обильная еда, как и полагается, сказывается на настроении солдат: молодой организм и свежий воздух требуют своего. Использовать свежее мясо для приготовления пищи здесь запрещено – нет соответствующего холодильного оборудования. Вместо этого в солдатском рационе удерживает прочные позиции тушенка. Постоянная спутница полевых кухонь и на лесных делянках выглядит как величайшее изобретение человека.

Здесь, в лесу, где работают армейцы, царит предельная демократия. Трелевочную технику заменяют люди. В разгар работы не поймешь, где солдат, а где офицер. Все одинаково разгоряченные и увлеченные своим делом. Среди армейских лесорубочных бригад царит дух соревнования. В конце дня все с пристрастием подсчитывают сделанные „кубы" и азартно спорят, у кого больше поленица.

Такая концентрация внимания вокруг дела естественным образом отвлекает молодых людей от „нештатных" поступков и неуставных отношений. Правда, была попытка вывести ребят „в свет" – на дискотеку в клуб соседнего села, но испытание свободой они, надо сказать, не выдержали. С тех пор их мир развлечений сосредоточен внутри лагеря. После рабочего дня можно почитать, посмотреть кино или „видик". Время от времени в палаточный городок наведываются самодеятельные артисты из близлежащих деревень.

Давно известно, что работа на лесоповале трудна и опасна. Не очень-то хочется, чтобы молодые ребята подвергались на воинской службе хоть малейшему риску. Но их командиры и наставники рассуждают по-другому. „Солдат должен научиться обеспечивать себе оборону, – говорит заместитель командира корпуса по тылу Валерий Васильевич Кузьменко. – Перед тем, как вырыть окоп, ему придется расчистить территорию, в том числе и срубить лес. Им будет приказано ликвидировать последствия ударной волны – в принципе та же работа, что и сейчас. Все, что солдаты срочной службы делают в настоящее время в той или иной степени входит в программу их подготовки".

Чтобы окончательно договориться со своей совестью, остается добавить, что навыки лесорубов, приобретенные в лесах под Телеханами, помогут отслужившим армию ребятам найти себе работу на гражданке. Если, конечно, им придется по сердцу этот тяжелый труд.

**Г. ЕВСТИГНЕЕВА.**

## „МЭБЛЯ-98"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Так будзе называцца выстава-кірмаш, якая адбудзецца ў лістападзе гэтага года ў Мінску. У ёй будзе ўдзельнічаць і акцыянернае таварыства „Косаўскае мэблевае вытворчае аб'яднанне". Да гэтай падзеі мэбельшчыкі рыхтуюць набор карпуснай мэблі пад назвай „Касаўчанка", а таксама набор мяккай мэблі.

Выстава павінна даць адказ на пытанне, ці будзе попыт на навейшую прадукцыю косаўскіх мэбельшчыкаў.

## СВОЙ „БЕРМУДСКІ ТРОХКУТНІК"

**БАРАНАВІЧЫ.** А з першага погляду не скажаш. Шматпавярховыя дамы выстраіліся паўз вуліц Пралетарскай, Прамысловай, Кірава. Людзі абжыліся. Дзятва таксама асвоіла жыллёвы масіў, шнырыць паміж дамамі і на пустэчах лазіць праз дзіравы плот на тэрыторыі суседніх завода санэлектранарыхтовак, мехкалоны, аўтабазы і малых прадпрыемстваў. А што ім рабіць яшчэ ў гэтым трохкутніку? Школы, стадыёна ці хоць бы спартыўнай пляцоўкі няма. Прытуліцца ім, гарэзам, няма дзе.

– Няма ў нас і дзіцячага садка, – скардзяцца жыхары гэтага масіву. – Калі дашкольнікаў мы дастаўляем у аддаленыя садкі, дык школьнікі вымушаны самастойна пераадольваць чыгуначныя пуці па дарозе ў школы, размешчаныя ў Паўночным мікрараёне. Перабягаюць перад грукочучымі цягнікамі, лезуць пад вагоны, на платформы. Дзеці, што ім скажаш. Вось і дрыжым мы, бацькі, адпраўляючы іх на заняткі.

Як жа так атрымалася, што падчас забудовы такога буйнага жылмасіву, улады забыліся пра дзіцячыя ўстановы? Аказваецца, пустка і частка вёскі былі аддадзены пад дамы будаўнікоў. Тыя і пастараліся найхутчэй паставіць шматпавярхоўкі. Гарадскі аддзел народнай адукацыі не драмаў. Яшчэ да „перабудовы" здабыў грошы на спартыўны комплекс з басейнам, сярэднюю школу і дзіцячы садок. Аднак пакуль будаўнікі разварушыліся, інфляцыя раптоўна з'ела гэтыя сродкі. Момант быў упушчаны. Як заўсёды, дзеці апынуліся, прабачце, у дурнях. А з імі – бацькі.

## НЕБА ПАКАРАЕЦЦА АСАМ

**БЯРОЗА.** Пілоты першага класа з мясцовай авіябазы прадэманстравалі сваё майстэрства ў небе над Россю, што пад Валкавыскам. Палкоўнік Альфрэд Краўчонак і падпалкоўнік Анатоль Чарнавалод, які налятаў 2,5 тысячы гадзін, выканалі віражы на сваіх серабрыстых МіГ-29. За іх палётамі назіраў выконваючы абавязкі камандуючага ВПС РБ палкоўнік Сяргей Булыгін, які высока ацаніў палёты бярозаўцаў і перадаў ім на вечнае захоўванне ў часць баявы сцяг 10-га авіяпалка.

## АБРОВА СУПРАЦЬ АМОНА

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Сапраўдная бойня адбылася ў вёсцы Аброва паміж вясковай моладдзю і нарадам АМОН.

Гісторыя пачыналася так. Дзевяць амонаўцаў з Баранавічаў прыбылі з рэйдам-праверкай у вёску Аброва, якая лічыцца крымінагеннай, і затрымалі аднаго нецвярозага хлопца. У гэты дзень у вёсцы спраўлялі ажно 4 вяселлі і большасць жыхароў была на добрым падпітку. Вестка пра тое, што заезджыя „менты" затрымалі іхняга сябра, хутка абляцела ўсю вёску, і на плошчы перад Домам культуры сабраўся натоўп у 100 чалавек. Міліцыянтам выставілі патрабаванне неадкладна адпусціць хлопца і ўбірацца прэч. Паколькі ніводны з бакоў саступаць не збіраўся, славесная спрэчка перарасла ў бойку. Амонаўцы пачалі страляць у паветра, але гэта яшчэ больш раззлавала натоўп. Ахоўнікі парадку былі моцна збітыя, а раённы пракурор, які прыехаў у вёску, каб суцішыць раз'юшаны натоўп, ледзь выратаваўся ад п'янага гневу вяскоўцаў.

Як паведамілі ў прэс-службе ўпраўлення ўнутраных спраў Брэсцкай вобласці, усе дзевяць супрацоўнікаў АМОНа атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Дакументы па факце нападу на супрацоўнікаў міліцыі будуць накіраваны ў пракуратуру для ўзбуджэння крымінальнай справы.

**А. НЕВЯРОЎСКІ.**

● НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ВЕРАСЕНЬ

*Рубеж, калі адбывалася развітанне з летам і пачыналася восень, указваўся ў народзе па-рознаму. Відавочныя знакі восеньскай пары прыкмячалі ўжо на Пятра, потым на Іллю, Спаса, Прачыстую, Флора і Лаўра. Умоўна лічыцца, што восень наступае ад пачатку верасня. Крыху панылыя, але яшчэ з праблескамі сонца карціны першага восеньскага месяца малююць народныя прыкметы: „Верасень – з досвіткам дзень”,паказваючы гэтым самым паступовае скарачэнне дня. Усё мацней бяруцца халады, звычнымі робяцца туманы, ападаюць лісты з дрэў, чырванеюць рабіны („У верасні адна ягада – ды і тая горкая рабіна”). Але земляроб меў чым парадавацца падчас прыроднай сумоты, бо „верасень месяц халодны, але сыты”. Нездарма ж гаварылася: „Як настане верасень – у гаспадара поўна гумно і кішэнь”.*

**5 верасня. Дзень пакутніка Лупы** (як і наогул першая дэкада верасня) прызнаваўся ўдалым для азімай сяўбы: „На Лупа будзе жыта купа”. Павер’е магло нарадзіцца не толькі на падставе гукавога падабенства, але і па зрокавых асацыяцыях. Гаварылі, што ў дзень памяці святога Лупы нельга сеяць жыта, таму што на ўсёй ніве будуць „лупы” – жыта ўзыдзе і вырасце плешынамі. Так адзін і той жа вобраз у залежнасці ад мясцовай традыцыі надзяляўся супрацьлеглым стаўленнем да сялянскай працы ў гэты дзень.

**7 верасня. Варфаламей, Ціт, Міна, Яўлогій.** Імя святога Варфаламея (у народзе – Баўтрамея) рыфмавалася з адпаведнымі аграрнымі работамі: „Прыйшоў Баўтрамей – жыта на зіму сей”. У гэты ж дзень прадугледжваўся адлёт буслоў у вырай, іх зварот праз дзевяць месяцаў падмацоўваў тлумачэнне, што дзяцей прыносяць менавіта гэтыя птушкі: „Святы Баўтрамей высылае буслоў на дзяцей”. Па стану надвор’я на Варфаламея вызначалі характар усёй восені.

**10 верасня – Майсей** невядома з якой прычыны шанаваўся як збавіцель ад п’янства, асабліва запойнага. Таму жанчыны, што пакутавалі ад мужоў-п’яніц, звярталіся менавіта да Майсея па дапамогу.

**11 верасня – Дзень адсячэння галавы Іаана Прадцечы** меў у народзе назвы: **Іван Галавасек (Галаварэз, Сценцель), або Іван Калінавік (Калліннік).** Адзначаўся праваслаўнай царквою строгім постам. Разнастайныя формы жалобы бытавалі і сярод простага люду, кожная парада ці забарона па-свойму лагічна выцякала з характару дня. На Галавасека **нельга** было есці круглых пладоў, каб не спадобіцца Ірадыядзе, якая забаўлялася галавою Іаана Хрысціцеля як яблыкам, і каб не садзілася ў бліжэйшы год на целе скуллё. Баяліся варыць чырвонае бацвінне, бо, лічылі, у доме на працягу года пральецца чыя-небудзь кроў. Забаранялася рэзаць нажамі і сячы сякерамі ўсё, што мела круглыя абрысы, нават хлеб кроілі загадзя ці ламалі яго рукамі. Пад пагрозаю пажару рупіліся выпаліць напярэдадні ў печы і ўсяляк пазбягалі звозіць сена ў хлявы.

**14 верасня – Сямён, Марфа.** Дзень Сямёна Стоўпніка („Стаўбуна”) меркаваўся як апошні **дзень сяўбы** азімых: „Святы Сымон – а сявец дамоў”. Паводле народнага павер’я, жыта, пасеянае ў гэты дзень, не будзе баяцца павалу, будзе трымацца ”станьком”, высокае, але неўмалотнае. А каб засцерагчыся неўмалоту, няпоўных каласоў, забаранялі на Сымона малаціць. Павер’ям служыла сугучнасць: „семя” і „Сямён”. У выніку гэты святы станавіўся нібы паверaным селяніна ў зерневай справе. Наогул, селянін кожны этап да будучай сяўбы азімых „даручаў” асобнаму святому: „ Да Пятра трэба зямлю паараць, да Іллі – узбаранаваць, да Вялікай Прачыстай – памяшаць і да Сямёна – жыта ўзараць”. Яшчэ адлятaлі птушкі ў вырай. З Сымонам звязвалася павер’е, быццам ластаўкі хаваюцца на зіму ў ваду. На Сымона, як і раней на Баўтрамея, знішчалі ў хаце мух.

Другая палова верасня і пачатак кастрычніка ў народным календары звязваліся з пацяпленнем і насілі назву „бабінага лета”. Яна паходзіць ад таго, што на гэты час прыпадала пераважна „бабская работа” на агародзе і ў полі. Лагоднае надвор’е спрыяла ўборцы гародніны,капанню бульбы; гэты час церлі і трапалі лён і каноплі.

**27 верасня – Узвіжанне (Здвіжанне)** – так у народзе называлася царкоўнае свята, звязанае з ушанаваннем крыжа, які ўздымаўся („воздвигался” – адсюль і назва свята) над натоўпам вернікаў. Народнае тлумачэнне назвы немудрагелістае: „К Здвіжанню ўсё павінна быць здвінута”, г. зн. усе азімыя і яравыя павінны быць звезены з поля. На Капыльшчыне тлумачылі і так: „На Узвіжанне сонца калі ўсходзіць – гуляе, прыгае, двіжацца” (звычайна гэта прыродная з’ява прыпісваецца Вялікадню ці Купаллю). Песня раіла на Узвіжанне „з поля збіраць, бульбу капаць, сцяліць лянок”.

**29 верасня – Віктар, Дарафей, Людміла, Язэп, Ісак.** У каталіцкім календары гэта дзень Міхаіла, які прадказваў надвор’е: „Калі на Міхала з поўначы вее, то не мей на пагоду надзеі”. Ясная ноч абяцала трывалую зіму.

**30 верасня – Вера, Надзея, Любоў, Соф’я.**

Калі на працягу верасня ліст на дрэвах трымаецца моцна – зіма няскора прыйдзе.



Фота А. ГАНЧУКА.

● ВАША ПІСЬМО

## НАВЕДАЛІ ПУШЧУ. ДЗЯКУЙ

Аднадзённую экскурсію ў Белавежскую пушчу зрабілі члены таварыства інвалідаў. Большасць з нас дагэтуль бачылі гэтую жамчужыну прыроды толькі па тэлевізары ці былі там вельмі даўно. Таму паездка аказалася сапраўдным святам. Мы наведалі музей, пабывалі ля вальераў з жывёламі, пабачылі Віскулі.

Такі нечаканы падарунак інваліды Івацэвічаў атрымалі дзякуючы таму, што раённае аддзяленне БелТІ на чале з В. І. Саўчуком узяло на сябе ўсе расходы, паклапацілася пра аўтобус.

**Ф. ГОЛАД, удзельнік экскурсіі.**

# Для дома, для семьи, для души...

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

### НЕ КАЖДЫЙ ГРИБ ПОДАРОК

*Соблазн побаловаться грибочками известен. Но риск отравиться этим даром леса велик. Даже белый гриб, если он перезрел, может стать причиной отравления. В процессе разложения в белом грибе появляется значительное количество токсичных продуктов распада белков.*

*Большую опасность представляют грибы, собранные в „грязных” местах: городских скверах и парках, вблизи автомобильных и железных дорог, свалок.*

*Грибы не рекомендуется давать детям до 5 лет. Не на пользу они и больным подагрой, и людям с хроническими заболеваниями печени и почек. Ну, а если вы, не страдая этими болезнями, почувствовали после грибной трапезы недомогание – не медлите принять неотложные меры.*

*Отравление грибами проявляется по-разному. Через 15 минут – 2 часа после еды „дают о себе знать” некоторые виды мухоморов, говорушек, волоконниц, ложных грибов (опенок серно-желтый, ложно-дождевик), рядовок и др. Возникают тошнота, рвота, слюнотечение, обильное потоотделение, головокружение и даже расстройство психики.*

*Симптомы отравления бледной поганкой, строчками весенними, паутинником оранжево-красным проявляются после скрытого (латентного) периода. Он может продолжаться от 6 часов до 3 суток.*

*При отравлении бледной поганкой примерно через 12 часов после еды начинается упорная рвота, сильный понос, что приводит к резкому обезвоживанию организма. Через несколько часов наступает ложное улучшение, и такой бессимптомный период продолжается 3–5 дней. Затем, в следующей фазе отравления, проявляется угрожающее жизни больного разрушающее действие токсинов на печень, почки, легкие, скелетные мышцы и центральную нервную систему. Основной причиной смерти становится острая печеночно-почечная недостаточность. Поэтому во всех случаях появления после приёма грибов недомогания необходимо прибегать к медицинской помощи. Только своевременное вмешательство врачей-токсикологов может помочь отравившемуся бледной поганкой.*

*До прихода врача в домашних условиях рекомендуется промыть желудок, принять слабительные средства и активированный уголь. Лечь в постель, к ногам положить грелку. Можно пить молоко, крепкий чай. Спиртные напитки категорически запрещаются, ибо они облегчают всасывание и распространение яда в организме.*

● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

### ХОЗЯЮШКЕ НА ЗАМЕТКУ

*В старинных книгах приводится совет, как стирать батистовые платки: „Стирают их в теплой воде, прибавляя немного соды. После чего полощут в чистой и для освежения красок кладут на несколько часов в воду с уксусом, разведенную настолько, чтобы она имела приятную кислоту”.*

x x x

*Яркость и элегантность шелковым вещам придаёт „подкрахмаливание” желатином: его добавляют в воду при полоскании, предварительно растворив.*

x x x

*Корсетные изделия из синтетики (пояса, бюстгальтеры) лучше всего стирать в „мягких” моющих средствах, при полоскании в последнюю воду добавьте несколько капель нашатырного спирта.*

x x x

*Блеск сильно потускневших серебряных изделий можно восстановить, если вымыть их сначала любым моющим средством, а затем раствором гипосульфита натрия (20 г фотографического гипосульфита натрия на 100 мл воды) и теплой водой.*

x x x

*Чтобы удалить грязь с позолоченной поверхности, ее протирают ватным тампоном, смоченным в скипидаре. Сильно потускневшую поверхность позолоченного изделия можно освежить, осторожно протерев ее фланелевой тканью, смоченной смесью, состоящей из 1 столовой ложки жидкого средства „Белизна” и 1 яичного белка.*

● ЖИТЕЙСКАЯ СИТУАЦИЯ

### КОГДА МЫ СЛЁЗЫ ЛЬЁМ

*Что за вопрос? Разумеется, в минуты сильного расстройства, горя или сталкиваясь с неприятностями. И все же... Ученые, занимающиеся исследованиями этого явления, пришли к выводу, что чаще всего слёзы льются вечером – между 7 и 10 часами. Это, якобы, традиционное время домашних ссор, наказаний раскапризничавшихся детей и время, когда мы смотрим телевизор. Телевидение, кстати, является раздражающим фактором в семейной жизни.*

*К счастью, подобный плач непродолжителен. В среднем – и это тоже подсчитано – всхлипывания прекращаются через 6 минут, независимо от того, по женским или по мужским щекам текли слёзы.*

*Между прочим, психологи утверждают, что слёзы приносят облегчение и разряжают стрессовое состояние организма, как вызванное грустью и печалью, так и сильной радостью.*

● СЛОВО

*Родительская помощь не должна быть навязчива, утомительна. В некоторых случаях необходимо предоставить ребёнку самому выбраться из затруднения, нужно, чтобы он привыкал преодолевать препятствия и разрешать более сложные вопросы. Но нужно всегда видеть, как ребёнок совершает эту операцию, нельзя допускать, чтобы он запутался и пришёл в отчаяние. Иногда даже нужно, чтобы ребёнок видел вашу осторожность, внимание и доверие к его силам.*

*Авторитет помощи, осторожного и внимательного руководства счастливо дополнится авторитетом знания. Ребёнок будет чувствовать ваше присутствие рядом с ним, вашу разумную заботу о нём, вашу страховку, но в то же время он будет знать, что вы и не собираетесь всё делать за него, снять с него ответственность.*

**А. С. МАКАРЕНКО.**

● УЛЫБНИТЕСЬ

*В парке прогуливается супружеская пара. Навстречу идёт дородная дама. Муж говорит жене:*

*– Дорогая, постарайся выглядеть счастливой. Навстречу идет моя предыдущая жена.*

XXX

*– Соседка, что это я не вижу вашего мужа?*

*– Господи, я же забыла вынуть его из костюма, который отнесла в химчистку!*

XXX

*Мама приходит с дочкой к врачу:*

*– Не знаю, что делать – у неё всё время глаза навыкате и улыбается без конца.*

*– А вы косу послабей заплетайте.*

● КРЫМІНАЛ

## "ЧАС ТАКІ, І ВЕК ТАКІ..."

Акрамя крадзяжоў, апошнім часам у Івацэвіцкім раёне на вуліцах і дарогах, а калі-нікалі і ў кватэрах участіліся грабяжы і разбоі. Ноччу, а здараецца і днём, злачынцы нападаюць на людзей, сілай адбіраюць у іх уласныя рэчы, грошы, упрыгажэнні. Часта наносяць грамадзянам і цялесныя пашкоджанні.

Нямногія жыхары райцэнтра вечарам ці ноччу адважваюцца прайсці па цёмных вуліцах. Напрыклад, грамадзянка С. Пястрак (гэта было сёлета ў ліпені)апоўначы ішла з работы дамоў. На вуліцы Пралетарскай яе спынілі двое мужчын,адабралі залатыя завушніцы, грошы і адпусцілі.

Праўда, у выніку своечасовай пошукавай работы супрацоўнікаў крымінальнага вышуку рабаўнікі да раніцы той жа ночы былі злоўлены. Такая аператыўнасць, паведамленне пра здарэнне і яго вынікі ў друку даюць падставы сказаць, што злачынцаў абавязкова знойдзе немінучая кара, усяляюць надзею на паляпшэнне крымінагеннай абстаноўкі ў раёне.

Яшчэ прыклады. Сярод белага дня ля Івацэвіцкага Дома культуры невядомы злачынца адабраў у грамадзянкі А. Ярашэнка яе сумку і ўцёк. Прозвішча рабаўніка яшчэ не ўстаноўлена, ён яшчэ не спайманы. Але, як кажуць, да пары збан ваду носіць. Трапіць і ён у рукі правасуддзя і атрымае па заслугах.

А тым, хто папаўся ўжо, ніякай паблажкі не было і не будзе.

Грамадзянка Г. Грышкова на рынку г. Івацэвічы каля дзевяці гадзін раніцы дзейнічала спрытна і нахабна. Імгненна ў яе руках апынуліся партмане-калькулятар, рукавіцы прадаўшчыцы А. Падгорнай. Але ўцячы зладзейцы не ўдалося, не ўдалося выкруціцца і адгаворамі: я не хацела, я выпадкова, я больш не буду...

Трэба сказаць, што заўсёды небяспечныя рабаўнікі-адзіночкі, але яшчэ большую небяспеку нясуць злачынцы, якія дзейнічаюць групай.

У маі гэтага года на алімпійскай трасе чацвёра малойчыкаў (С. Макар, А. Мулярчык, Г. Арабей, Ю. Пугачоў) спынілі аўтамашыну і забралі ў вадзіцеля Мельнікава 250 долараў.

Усе названыя факты сведчаць аб тым, што нашым грамадзянам сёння трэба быць вельмі асцярожнымі, пільнымі, умець захоўваць свае каштоўныя рэчы, не хадзіць уначы ў адзіночку. Бо, як спявае Анатоль Ярмоленка, „Час такі, і век такі..."

**В. САЛОМЕНІК,**
**курсант Мінскай спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
*Падпісана да друку 1 верасня ў 14.00.*

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.



*Тыраж 1.000 экз.*
*Заказ № 2015.*